Народная Воля http://www.nv-online.info
4 ВЕРАСНЯ 2018 г.

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

# О СВЯТОСТИ И ПОРОКЕ,
## или Освобождение Саломеи от пошлости

*Через несколько дней начинается новый сезон в Большом театре. На этот раз он открывается настоящей сенсацией – постановкой гениальной оперы Рихарда Штрауса «Саломея». Она создана композитором более ста лет назад, но тем не менее ее до сих пор сопровождает некоторый флёр скандальности. И минская публика замерла в предвкушении: что приготовил нам режиссер-постановщик оперы Михаил Панджавидзе? Не без нервов и усталости Михаил Александрович отвечал на вопросы «Народной Воли», пытаясь разбить железобетонные клише об этом музыкальном произведении, успевшие поселиться в мозгу журналиста.*

**– В начале лета, когда Большой театр объявил о предстоящей премьере оперы «Саломея», многие СМИ буквально со сладострастием смаковали информацию о том, что вы обратились к Кириллу за благословением перед началом работы. А действительно, зачем вы обратились к патриарху?**

– Именно за тем, чтобы было меньше сладострастия.

**– А церковь теперь спокойнее относится к этому произведению музыкального искусства?**

– Откуда у вас информация, что католическая и православная церковь не разрешают к исполнению оперу Рихарда Штрауса либо драму Оскара Уайльда, по которой было создано либретто?

**– Конкретно к этим знаменитым фамилиям у церкви действительно сейчас претензий нет. Но большие оперные скандалы с участием церкви случаются. Разве не так было в России?**

– Постановка оперы "Тангейзер" в Новосибирске была провокационной, потому что в ней режиссер использовал христианскую символику, которая не имеет отношения к Христу и не заложена на самом деле в либретто. Тимофей Кулябин попытался спекулировать на этих мотивах. Естественно, у церкви возникли вопросы. В «Саломее», которая готовится сейчас к премьере, библейские персонажи прописаны изначально и в литературном первоисточнике, и в самой опере. Здесь ничего вызывающего для церкви не будет.

**– Тем не менее, когда Штраус представил ее миру в начале XX века, некоторые критики от церкви называли ее «сатанинской».**

– Знаете, Джордано Бруно тоже сожгли. Понимаете, да? Мы что, будем перечислять все грехи церкви? Она, кстати, покаялась.

**– Вы считаете, наша публика готова к «Саломее»? Только не говорите, что вам безразлично ее мнение…**

– А с чего вы взяли? Мне далеко не безразлично чужое мнение. И чем минская публика отличается от...

**– От зальцбургской, например?**

– Ну, а зальцбургская мне не так уж интересна. Меня больше интересует наше постсоветское пространство. Я не считаю, что у нас публика менее подготовлена, чем любая другая. И знаете, о чем я хочу сказать: с кем ни разговариваю, с чувством великого собственного превосходства убеждаюсь, что все, кто готов накинуться на «Саломею», просто очень плохо знают эту оперу.

**– Совершенно верно! Большинство из нас ее не слышали. Но читали, что и сюжет с ловушками, и партирура изнуряющая.**

– Так не читайте, а сначала послушайте. У нас в Большом театре шла «Катерина Измайлова» Дмитрия Шостаковича, диссонанс на диссонансе, то есть гораздо более сложная партитура. А что сейчас получается? Идет пересказ досужих сплетен.

**– Но многим в зале на премьере «Саломеи» придется все-таки сломать годами наработанные шаблоны.**

– Я глубоко убежден, что зритель не путает Рихарда Штрауса с Джузеппе Верди. Все, о чем вы сейчас говорите, я слышу с самого начала работы над постановкой. Это, в принципе, сформированное десятилетиями клише, штамп, который в результате губит это произведение. Даже в Википедии написано, что Штраус написал произведение, отличное от первоисточника, драмы Оскара Уайльда. Вместо женщины-развратницы и шлюхи-монстра (по Уайльду) композитор вывел девственницу, которая в роковых страстях приходит к истинному пониманию любви. А мы в своей постановке приходим к выводу, что не только любви, но и к пониманию Божественной сущности, о которой Саломее говорил Иоканаан (Иоанн Креститель). Саломея приходит не только к любви, но и к Богу.



**– Саломея не понимает, что с ней происходит?**

– Да, потому что она – девочка! Вы все забываете, что Саломея – девственница. С чего начинается опера? Саломея не может находиться в разнузданной, распущенной толпе среди египтян с накрашенными глазами, хитрых греков, вахлаков-римлян… Не может находиться в этой неестественной обстановке и убегает. Все, что придумали впоследствии с образом Саломеи, также пошло, как все, что потом навесили на Кармен. Первоисточник разве такой? Да, Кармен распутница, но сейчас из этого сделали сладкую пошлость. Так же, как и с «Травиатой». Это еще страшнее, потому что безвкусица. А во что превратилась та же «Чио-Чио-сан»? Набор ходульных клише.

**– Но все-таки почему вы выбрали для своей новой постановки "Саломею"?**

– Потому что мне это интересно. Целый ряд спектаклей в Минске я ставил, потому что это надо было Большому театру. А теперь это нужно мне, режиссеру.

**– А худсовет?**

– Не все меня поддержали. Но это в порядке вещей. Были против не «Саломеи» – были против меня. Я называю вещи своими именами. Предлагал бы «Сказки Гофмана», были бы против Оффенбаха. Сказали бы, что музыка легковесная. Предложил бы Глинку, услышал бы: «Зачем нам русская музыка?» А предложил бы Богатырева, воскликнули: зачем нам этот нафталин?

**– А как вы переламываете ситуацию в свою пользу?**

– Я переламываю ситуацию, потому что у нас есть директор Гридюшко, который поверил в режиссера и почувствовал, что «Саломея» должна быть в европейском оперном театре в XXI веке. Иначе мы глухая провинция. Нет никакого скандального флёра у оперы «Саломея». Придумано! Штраус в партитуре сам давал указания, чтобы на сцене не было никакого физиологизма и эпатажа. А иной режиссер думает так: раз поцелуй, значит, героиня у меня будет кровью захлебываться. Тем более сейчас это умеют делать. Омерзительно. Но самое главное – этого ведь нет в музыке!

**– Надеюсь на премьере услышать Екатерину Головлеву в партии Саломеи. У вас хороший творческо-семейный тандем: вы – главный режиссер, жена – ведущая солистка труппы.**

– Что ж хорошего? Екатерина изначально несчастный человек. В качестве жены режиссера она изначально считается бездарной певицей. Просто по факту. Это же так заманчиво объяснять ее успех однойединственной фразой: «Она блатная». Говорите, смешно? Если смотреть на это как на сюжет в водевиле. А то, что такая травля губит человека? На самом деле очень трудно чувствовать себя ахиллесовой пятой своего мужа.

**– Но Екатерина поет практически весь репертуар, появляется на сцене чуть ли не раз в неделю.**

– За это и упрекают. Однако когда мы создавали семью, я был стажером в Большом театре Москвы, а Катя – начинающей певицей там же. Так что она выходила замуж не за главного режиссера, а я женился не на примадонне. Но я давно успокоился, эндорфины уже давно израсходованы. Сейчас очень хочется быстрее выпустить премьеру оперы «Саломея».

**Елена МОЛОЧКО.**

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ



Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
педагог, кандыдат філалагічных навук

# Гісторыя з геаграфіяй і не толькі…

Год таму перад пачаткам чарговага навучальнага года мне давялося выказаць сёе-тое на адрас Міністэрства адукацыі, якое на той момант менш як год узначальваў Ігар Карпенка. Некаторыя мае калегі заўважылі, што яшчэ занадта рана ацэньваць працу новага міністра і, галоўнае, яго апарату за такі кароткі тэрмін. Ну што ж, прайшоў яшчэ цэлы каляндарны год – і што змянілася, што стала нечым адметным? Паспрабуем разабрацца.

Сайт Міністэрства адукацыі дае інфармацыю пра найважнейшыя ініцыятывы і дзеянні ведамства **Ігара Карпенкі**. Пэўна, што велізарным "дасягненнем" міністэрства выглядае тое, што яно зацвердзіла аж 39 узораў вокладак для школьных дзённікаў, "узгодненых і рэкамендаваных" гэтым самым міністэрствам. Вядома, што ва ўсім свеце дзённік даўно перастаў быць уніфікаваным і абавязковым дакументам, а ўяўляе сабою разнавіднасць звычайнага нататніка, без рознага кшталту малюнкаў або іншых аздоб. Але паглядзім на зацверджаныя беларускія ўзоры. На трох з іх мы бачым выяву помніка Францішку Скарыну – таго, што стаіць каля Нацыянальнай бібліятэкі, яшчэ на трох – выяву самой галоўнай мінскай бібліятэкі, на адным – фота помніка Пятру Мсціслаўцу на яго меркаванай радзіме. На некаторых вокладках прысутнічаюць здымкі іншых беларускіх архітэктурных помнікаў, але большасць вокладак прысвечана спорту (найперш рэкламе Еўрапейскіх гульняў 2019 года), а таксама змяшчае, напрыклад, выяву алімпійскіх кольцаў. Затое дзённікавыя вокладкі чыстыя і вольныя ад партрэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Васіля Быкава, выяў дзеячаў навукі, культуры, мастацтва, якія праславілі Беларусь у часы пасля Скарыны і Мсціслаўца…

Сэнс гэтай міністэрскай акцыі відавочны: шаноўныя дзеці, для вас галоўны прадмет у школе фізкультура – займайцеся фізкультурай і спортам, і будзе вам шчасце!

Вядома ж, сёлета міма ўвагі міністэрства прайшла такая падзея, як першая спроба абвяшчэння ўласна беларускай незалежнай дзяржавы – і гэта нягледзячы на высілкі вядомых гісторыкаў з беларускай Акадэміі навук. Пры гэтым міністэрства на чале з Ігарам Карпенкам распрацавала праграму мерапрыемстваў, прысвечаных стагоддзю расійскага камсамола (у 1918 годзе пра існаванне беларускіх камсамольцаў не было вядома практычна нічога).

Але ж самае галоўнае ў дзейнасці найвышэйшага адукацыйнага ведамства краіны заўсёды тое, як гэтае ведамства падрыхтавалася да новага навучальнага года. Мне ўжо даводзілася пісаць пра тое, што чатыры гады таму яго папярэдняе кіраўніцтва схамянулася і пачало выпраўляць тое, што з ініцыятывы **Анатоля Рубінава** было нароблена ў сістэме адукацыі пасля 2007 года, калі быў рашуча спынены пераход на 12-гадовую сярэднюю адукацыю, вернуты ўніфікаваныя падручнікі і, не пабаюся гэтага выразу, кастрыраваны праграмы гуманітарнай адукацыі. Гэтыя выпраўленні тычацца найперш зместу і некаторых падыходаў да арганізацыі навучальнага працэсу ў сярэдняй школе, набліжэння да выканання крытэрыяў Балонскага працэсу ў школе вышэйшай. Сёлета галоўным аб'ектам рэфармавання маюць быць восьмыя класы беларускай базавай школы, для якіх уводзяцца новыя праграмы і вучэбныя дапаможнікі. Што ж мы маем на пачатку новага навучальнага года ў наяўнасці? У сярэдзіне жніўня нарэшце з'явіліся друкаваныя версіі навучальных праграм, каляндарна-тэматычнага планавання для настаўнікаў, а таксама большасць падручнікаў – паводле традыцыі, найперш для школ з рускай мовай навучання.

Трэба сказаць, што конкурсы на стварэнне такіх падручнікаў абвяшчаліся яшчэ папярэднім кіраўніцтвам міністэрства загадзя, два-тры гады таму. Гэта, аднак, не дапамагло. Беларускія настаўнікі геаграфіі пачынаюць новы навучальны год без адпаведнага падручніка (праграмы па гэтай дысцыпліне для 8-га класа былі зменены досыць радыкальным чынам). Ім прапануецца карыстацца "матэрыяламі да вывучэння прадмета", змешчанымі на партале беларускага Інстытута адукацыі. Адзначу, што гэтыя матэрыялы напісаны даволі мудрагеліста, і рэальна іх могуць скарыстаць настаўнікі, але ніяк не дзеці ва ўзросце трынаццаці-чатырнаццаці гадоў. Вось такая ўзнікла "гісторыя з геаграфіяй"…

Чарговы раз мушу пісаць пра неахайнасць падрыхтоўкі дапаможнікаў для адукацыі на беларускай мове: адчуванне, што яна разглядаецца міністэрскімі чыноўнікамі як другагатунковая, маю не адзін я. У выдадзеным шаснаццацітысячным накладам беларускамоўным варыянце дапаможніка па геаметрыі Валерыя Казакова старонкі 86 і 87 надрукаваны… на рускай мове. Гэта, вядома, можна спісаць на паліграфічны брак, але ж названая кніга друкавалася не дзе-небудзь а на самім Мінскім паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа, самым буйным і аўтарытэтным паліграфічным прадпрыемстве краіны!

Пасля адыходу ад рубінаўскай адукацыйнай рэвалюцыі ў сярэднія школы быў вернуты прадмет "Сусветная і айчынная мастацкая культура", за што гонар і хвала зноў-такі папярэдняму кіраўніцтву міністэрства. Але міністэрству не прыйшло ў галаву, што падручнік па такой спецыфічнай дысцыпліне павінен стварацца менавіта на беларускай мове: у беларусаў, як і ў любога іншага народа, маецца спецыфічная тэрміналогія, логіка трактавання эстэтычных катэгорый і г.д. Тым не менш дапаможнік быў першапачаткова створаны па-руску, а вучням школ і гімназій з беларускай мовай навучання, як заўжды, прапануецца перакладная версія (пераклад зроблены зноў-такі не прафесійнымі культуролагамі, а выдавецкімі супрацоўнікамі). У выніку гэтага тэксты, звязаныя з міфалогіяй, фальклорам і літаратурай іншых народаў свету падаюцца амаль выключна па-руску. Што яшчэ трэба, каб выхоўваць у беларускіх дзяцей сіндром непаўнавартаснасці, другаснасці беларускай мовы?

Пакуль што магу ацаніць падрыхтоўку ведамства Ігара Карпенкі да новага навучальнага года на моцную чацвёрку. Паводле прынятай дзесяцібальнай шкалы.

СІТУАЦЫЯ

# Ідэолагі супраць…

### А што скажуць жыхары вёскі Паляны?

*Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама не лічыць неабходным аднаўляць помнік паўстанцам Касцюшкі 1794 года ў вёсцы Паляны Ашмянскага раёна. Пры гэтым чыноўнікі спасылаюцца на апытанне жыхароў Палян, якія нібыта выказаліся супраць аднаўлення помніка.*

Жыхар Мінска **Вадзім Праўрацкі**, які займаецца краязнаўствам, напісаў ліст да гродзенскіх улад, у якім прасіў аднавіць зруйнаваны ў 1970-я гады ў вёсцы Паляны Ашмянскага раёна помнік паўстанцам 1794 года. Ён распавёў "Народнай Волі", што раней жыў у Ашмянскім раёне і займаўся вывучэннем падзей тых гадоў, напісаў артыкул для "Вікіпедыі" пра бітву каля вёскі Паляны.

"*Больш за тое, на месцы бітвы паўстанцаў з расійскімі войскамі стаяла хата дзеда маёй жонкі. Мне распавялі людзі пра помнік, які там стаяў, і пра тое, што яго знёс старшыня калгаса. Хаця людзі казалі, што помнік тады яшчэ быў у даволі добрым стане*".

Помнік у вёсцы Паляны, як распавёў Вадзім, быў усталяваны ў 20–30-я гады мінулага стагоддзя, за польскім часам.

І вось на мінулым тыдні спадар Праўрацкі атрымаў адказ з упраўлення ідэалагічнай работы і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама. У ім кіраўнік упраўлення **А.Вярсоцкі** піша, што "*Ашмянскім райвыканкамам праведзена апытанне жыхароў в.Паляны Жупранскага сельсавета, падчас якога высветлілася, што мясцовымі ўладамі ў 70–80-я гады XX стагоддзя было прынята рашэнне пра дэмантаж помніка ў сувязі з яго нездавальняючым станам і значнымі разбурэннямі. Таксама жыхары в.Паляны лічаць немэтазгодным аднаўленне гэтага помніка*".

Вадзім Праўрацкі іранічна паставіўся да такога адказу. Ён не давярае чыноўнікам. "*Вельмі сумняваюся, што хтосьці там людзей пра гэта пытаўся,* – кажа ён. – *А я пісаў чыноўнікам, што Паляны знаходзяцца на важным скрыжаванні дарог, там ездзіць шмат турыстаў, і гэта магло б прыцягваць іх увагу. Але такія помнікі, падобна, сённяшнім уладам не патрэбны*".

"Народная Воля" датэлефанавалася ў Жупранскі сельсавет, з тым каб высветліць, чаму жыхары вёскі Паляны лічаць немэтазгодным аднаўленне помніка паўстанцам Касцюшкі. Таксама мы спыталіся наконт апытання. Старшыня сельсавета **Андрэй Клышэўскі** патлумачыў, што сам помнік не памятае, але ведае, што ён быў, мясцовыя людзі пра гэта казалі.

"*А што тычыцца сацапытання наконт таго, каб аднавіць помнік, то такога ў нас не праводзілася,* – упэўнены спадар Клышэўскі. – *Я тут ужо даўно працую, і ніхто ніколі пытанне наконт былога помніка ў нашым сельсавеце наогул не ўзнімаў*".

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПЕРСОНА

# Даляглядзы
## Зінаіды Бандарэнка




*Вядомы беларускі журналіст Аляксандр Тамковіч напісаў кнігу, прысвечаную жыццю і творчасці народнай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнка. Зараз аўтар актыўна шукае сродкі для яе выдання. Спрычыніцца да гэтага можа кожны з нас. У размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" Аляксандр Тамковіч распавёў аб тым, як задумвалася і стваралася кніга, і адказаў на пытанне, ці варта чакаць там "смажаных" фактаў з жыцця легенды беларускага тэлебачання.*

– Ідэю напісання гэтай кнігі мне падарыла сама Зінаіда Аляксандраўна, – *распавядае Аляксандр Тамковіч*. – Здаецца, годзе ў 2005-м мы разам адпачывалі ў адным з літоўскіх санаторыяў. Прызнаюся, мяне заўжды цікавіла асоба Зінаіды Бандарэнка. Тады, трынаццаць гадоў таму, я стаў пытацца ў яе пра палітыку, дакладней пра тое, як грамадзянская пазіцыя Зінаіды Аляксандраўны адбілася на яе жыцці. Вы ж ведаеце: Бандарэнка была на вяршыні папулярнасці. Здавалася б, жыві і радуйся, але яна не з тых, хто замоўчвае несправядлівасць. За гэта, па сутнасці, яе акуратна і прыбралі з эфіру…

Але пра палітыку Бандарэнка расказваць не вельмі любіць. Помню, яна тады адказала: "Лепш я вам пра сваё жыццё раскажу". З гэтага ўсё і пачалося, усе гэтыя гады я жыў з ідэяй стварэння кнігі.

**– Але шчыльна прыступілі да яе рэалізацыі толькі ў мінулым годзе?**

– Так, перад Новым годам я трапіў у госці да Зінаіды Аляксандраўны. Яе муж стаў паказваць мне альбом з газетнымі выразкамі, прысвечанымі Зінаідзе Аляксандраўне. Гартаючы альбом, Мікалай Міхайлавіч сказаў: "Было б добра ўсё гэта неяк сістэматызаваць і зрабіць нейкую брашуру да юбілею Зінаіды…" Я зразумеў, што тыя выразкі самі па сабе зараз мала каму цікавыя і лепш было б узяцца за кнігу – жыццяпіс Зінаіды Бандарэнка.

**– Ці доўга збіралася фактура для кнігі?**

– Мы размаўлялі з маёй гераіняй днямі напралёт. У выніку я запісаў больш за 30 гадзін успамінаў Зінаіды Аляксандраўны. З таго, што яна мне распавяла, паверце, было што выбраць. У яе вельмі цікавы лёс. Але не варта чакаць у выданні нейкіх "жоўтых" падрабязнасцяў ці паласкання бруднай бялізны. Падрабязнасці, канечне, у кнізе будуць, будуць там і малавядомыя факты, і ўсе яны вельмі цікавыя…

Вось вам адзін з іх: у актыўную грамадзянскую дзейнасць Зінаіда Бандарэнка пайшла якраз пасля адной з аўтарскіх публікацый у "Народнай Волі". Як і чаму гэта адбылося, яна і распавядае ў кнізе.

"Мой шлях да Беларусі. Даляглядзы Зінаіды Бандарэнка" – так я яе назваў. У кнізе дзесяць раздзелаў, выданне будзе аздоблена якаснымі рарытэтнымі і ўнікальнымі фотаздымкамі.

**– Зараз вы актыўна шукаеце сродкі для выдання кнігі…**

– Так, і мне вельмі прыемна, што гэты праект падтрымае нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч. Паводле маіх падлікаў, на выданне кнігі неабходна сабраць каля 10.000 рублёў. З гэтай мэтай на дабрачынным інтэрнэт-партале talaka.by распачаты збор сродкаў. Спрычыніцца да выдання кнігі можа абсалютна кожны. Мы рады любой, нават сімвалічнай, суме – няхай і ў 5 рублёў. Падкрэслю, што ўсіх ахвярадаўцаў чакаюць прыемныя бонусы. Падрабязней пра гэта можна прачытаць на згаданым сайце.

А я скажу толькі, што "Даляглядзы Зінаіды Бандарэнка" плануецца выдаць у Беларусі. Кніга выйдзе ў цвёрдай вокладцы. Першапачатковы наклад – 1000 асобнікаў.

Прэзентацыя выдання запланавана альбо на канец гэтага, альбо на пачатак будучага года, усё будзе залежаць ад таго, ці ўдасца сабраць фінансы на яе выданне.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

*В прошлом номере «Народной Воли» мы рассказывали о белорусском фильме «Хрусталь», всколыхнувшем не только Минск, но и многие киностолицы мира. Фильм пошел в широкий прокат, получает прекрасные отзывы зрителей, кинотеатры Беларуси один за другим активно берут его для демонстрации. Сегодня мы хотим познакомить читателей с исполнительницей главной роли этой киноленты.*

## Алина НАСИБУЛЛИНА:

# «Мне, как и моей героине, нравилось играть в дерзость»

Одним из козырей «Хрусталя» критики считают актрису Алину Насибуллину, исполнительницу главной роли Вели Сорока. Она окончила Школу-студию МХАТ, где ее мастером был актер, режиссер, профессор Дмитрий Владимирович Брусникин, – то есть получила очень качественное театральное образование. В день премьеры Алина приехала в Минск, чтобы приветствовать зрителей на демонстрации фильма «Хрусталь» в кинотеатре «Москва». Актриса была, что называется, нарасхват. Но не отказалась от интервью «Народной Воле».

**– Что произошло в твоей жизни после «Хрусталя»?**

– Влюбленность и семейная жизнь. Естественно и быстро. А с мужем (*рэпером Хаски. – **Ред.***) я познакомилась как раз на съемках фильма. До этого в Москве мы даже не виделись.

**– Как ты думаешь, Алина, в тебе самой много от Вели Сорока? Ты знаешь это дерзкое желание – пройти своим путем во что бы то ни стало?**

– Во мне очень много от ее характера. Как говорится, совпало. Но сегодня у меня другой период, мне гораздо больше лет, чем Веле, я многое попробовала, понаступала на грабли и кое-что поняла – как гармоничнее и правильнее жить. А в возрасте Вели тоже готова была горы свернуть, и не понятно особенно, ради чего.

**– Тоже мечтала уехать из страны?**

– Никогда не думала. Всегда хотела уехать из Новосибирска, где родилась и где живут мои родители. «Хочу в Москву!» – мой рефрен до семнадцати лет. Но сначала поступила на юридический факультет, отучилась несколько лет, и только в двадцать прибыла в Москву.

**– Обычно любая столица безжалостно перемалывает приезжих. У тебя была ситуация «тошно жить»?**

– Было… Это правда, в Москве нужно бороться за душу свою, очень легко ее иссушить и потерять. Уже даже после съемок «Хрусталя» я вдруг ощутила, что во мне ее стало гораздо меньше. В разы меньше... Я поняла, что так, наверное, умирает душа. Страшно!

**– И как ты за себя постояла?**

– Я стала к себе строже. Как говорила моя бабушка: режим – это наш Бог. Чем строже к себе, тем лучше твоей душе. Излишества ей вредны. Но сбросить их очень тяжело: буржуазные замашки, пустое общение, расслабленное к себе отношение. Но я поняла, что мне проще, когда все строго, когда есть порядок. Только так я могу творить. Так что, если бы сейчас мне пришлось делать Велю в «Хрустале», то сопротивление ощущалось бы, и большое. Но тогда это совпало с тем, как я жила. Не то что вульгарность… Мне тоже, как и ей, нравилось играть в дерзость. Мне льстил образ легкости. Но Веля стала поворотной точкой в моих экспериментах над собой. Веля была для меня очень полезна.

**– Знаю, что в этом году ты взяла в руки режиссерский жезл.**

– Пример Дарьи Жук в чем-то помог. Она вообще вдохновляет. Как Дарья работает на площадке – так у нас мало кто работает. А я бывала на многих, хотя и нечасто снималась. Я очень люблю кино. Когда первый раз посмотрела Тарковского (еще в Новосибирске), поняла: вот! Вот чем я хочу заниматься. Замахнулась, что и говорить. У меня был такой возраст, когда мне казалось, что я могу все. Но во ВГИК не поступила, а в Школу-студию МХАТ меня приняли. Режиссером не стала, стала актрисой, чуть попроще. Нет, не так… Актрисой стать мне тоже нелегко далось, мне ничего легко не дается. Но потом я все-таки пошла учиться на режиссерские курсы Германа Седакова. В профессии режиссера я чувствую себя на своем месте. Это тот случай, когда... как бы это сказать... все во мне и вокруг меня замирает. Нет, я не отказываюсь от замечательной актерской профессии. Но у меня не получается сидеть и два года ничего не делать. Предложений сниматься не так уж и много.

**– И что ты в результате сделала как режиссер?**

– Первая короткометражка не получилась. Ведь никакого опыта! Я делала все сама, была всеми цехами сразу, а так не бывает. И получилось плохое кино. У меня осталась рана, я о режиссерстве долго даже думать не могла. Потом решила, что я – художник, как раз когда мы с Дашей познакомились.

**– Ну, художником быть всегда хорошо – в душе особенно. Но провал тебя все-таки не остановил, ты предприняла вторую попытку.**

– Второй "блин", да… Нашлась команда, получился фильм «Девы». В основе сюжета – библейская притча о девах, которые ждут жениха. У меня в короткометражке они сидят и ждут поезда. Все по-разному ждут… У всех разные биографии.

**– В каких московских театрах ты сейчас работаешь?**

– У меня есть моноспектакль в театре «Практика», есть роль в спектакле Центра Мейерхольда.

**– Чем бы ты пожертвовала ради карьеры?**

– Я не понимаю слова «карьера».

**– Ну, ради профессии?**

– Ничем. Но не работать я не могу, вот в чем дело. Это никакая не жертва, это естественная потребность. Но семья и дети всегда будут на первом месте. Вообще, во всем должна быть уравновешенность. Если приходится чем-то жертвовать, значит, твоя жизнь идет не туда. Всегда всему есть место. Но это у меня. А у других по-другому, по-разному.

**Кирилл БУБНОВ.**



**На фото: Алина Насибуллина с главным призом за фильм «Хрусталь» на фестивале в Выборге.**

БІЯТЛОН

## Динара АЛІМБЕКОВА:

# «Это не может не радовать!»




Дарья Домрачева и Надежда Скардино простились с большим спортом. В их отсутствие белорусам все равно есть за кого болеть на стартующем 2 декабря Кубке мира 2018–2019 по биатлону. В первую очередь конечно же за наших золотых медалисток Олимпиады **Пхёнчхана – Ирину Кривко** и **Динару Алимбекову.**

Динара, как известно, в конце мая перенесла операцию на левом плече. Однако биатлонистка уже приступила к тренировкам. Недавно на своей страничке в соцсетях она выставила фотографию из итальянского Антхольца, которую подписала: *«Прошло уже три месяца после операции. Позволяю себе работать без упора из положения лежа, хоть и с неидеальной изготовкой, но и это не может не радовать!»*

По словам Алимбековой, в сентябре женская сборная по биатлону будет тренироваться в Раубичах. *«Я довольна работой, проделанной в Антхольце, а сентябрь проведем в Раубичах»*, – заметила спортсменка.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Багаты хлебам беларускі край»



**Па гарызанталі:** 1.Едзеш на дзень, хлеба бяры на … (прык.). 4.Горка часам …, ды хлеб ад яе салодкі (прык.). 6. … – хлеба дзяжа (прык.). 7.“Хвалілі … хлеб і старажытны,//Багаты хлебам беларускі край” – з верша Л.Геніюш “Хлеб”. 9.“Дай … у працы будзённай шэрай//на хлеб надзённы, на родны край” – з верша Н.Арсенневай “Малітва”. 11.Тое, што і сажалка. 12.Усход, усходні вецер. 13.Свята ўраджаю, якое падводзіць вынікі працы селяніна; адзначалася 28 жніўня. 14.Калі … на баране, тады і блін на рэшаце (прык.). 17.Газ без паху і колеру. 18.Будзе хлеб – будзе і … (прык.). 19.Пусты … галаву высока паднімае (прык.). 20.Дзе гаспадар ходзіць, там … хлеб родзіць (прык.). 22.У поле – па хлеб, у … – па дровы (прык.). 23.“І … безграхоўны той,//якім цалуем маці й хлеб надзённы” – з верша Р.Барадуліна “Маці і хлеб”. 27.Хлеб над панамі … (прык.). 30.Шкляная пасудзіна для піцця. 31.Толькі … з неба не просяць хлеба (прык.). 32. … рукам, што пахнуць хлебам! (Прык.). 33.Невялікі пакаёвы або паляўнічы сабака. 34.Чужына – не родная …, хлеба не дасць (прык.). 35.Адна … – два сярпы, дзве раллі – тры сярпы (прык.).

**Па вертыкалі:** 1.Згода … будуе, а нязгода руйнуе (прык.). 2.“Наш хлеб – жыцця …,//Працяг і барацьба” – з верша П.Панчанкі “Хлебныя словы”. 3.Тое, што і лось. 4.Насціл на падлозе з дошчачак. 5.Чысціня маральных адносін. 8.Заходнееўрапейская краіна. 9. … да слова, а хлеб да абеда (прык.). 10.Старажытнаегіпецкі бог Сонца. 15.“Хлеб у хаце! Пахучым сонцам//Цёплы … з покуці свеціць” – з верша Л.Галубовіча “Успамін”. 16.Частка астранамічнага года. 19.Беларускі бог ураджаю і дастатку. 21.Тое, што і яснасць. 24.Ядавітая балотная ці вадзяная расліна сямейства парасонавых. 25. … або сварка; яна забаранялася, калі ў печы выпякалі хлеб, бо ён мог “спалохацца”. 26.Салодкі сок, які выдзяляецца кветкамі меданосных раслін. 28.Якая скібка, такая і … (прык.). 29.Перавернуты пласт зямлі.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

СТОП-КАДР

# Новыя гульні – новая форма

*Учора вечарам у Мінску была прэзентавана новая форма нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе. У ёй нашы спартсмены будуць выступаць бліжэйшыя чатыры гады.*



Графік падпісання газеты ў друк не дазволіў змясціць фотарэпартаж з прэзентацыі, але вядома, што ў адпаведнасці з кантрактам, які падпісаны паміж асацыяцыяй "Беларуская Федэрацыя футбола" і італьянскай кампаніяй "Macron", менавіта апошняя будзе пастаўляць поўны спектр абноўленай спартыўнай экіпіроўкі для нацыянальнай і маладзёжнай зборных Беларусі з 2018-га па 2022 год.

Менеджар па марке кампаніі "Macron" Франчэска Марцінелі, які курыруе выкананне кантракта, заўважыў: *"Сумесная праца была вельмі карыснай. Мы здолелі стварыць асаблівы і ўнікальны дызайн формы, у якім адлюстраваны традыцыі і гісторыя Беларусі"*.

Дэбют нацыянальнай зборнай у новай форме адбудзецца 8 верасня, калі нашы футбалісты правядуць першы хатні матч у межах новага турніру – Лігі нацый. Сапернікамі падначаленых Ігара Крывушэнкі стане зборная Сан-Марына.

**Кастусь ЛІПСКІ.**

НАПЯРЭДАДНІ

# У Барысаў едзе «Чэлсі»!

*Барысаўскі БАТЭ даведаўся, з кім будзе сапернічаць у групавым этапе Лігі Еўропы. Лёгка нам не будзе…*

Лёсаванне адбылося ў французскім Манака. 48 клубаў, згодна з рэйтынгам, былі размеркаваны па чатырох кошыках. Беларускі клуб быў размешчаны ў трэцім з іх.

У выніку барысаўскі БАТЭ трапіў у квартэт L. Нашымі сапернікамі сталі лонданскі "Чэлсі", грэчаскі ПАОК і венгерскі "Відзі".

Ці ёсць у нас шанцы на выхад з такой групы? Безумоўна, фаварытам квартэта, куды трапіў БАТЭ, лічыцца лонданскі "Чэлсі". Каманда, якая займае восьмае месца на планеце ў спісе клубаў з самымі высокімі даходамі, лічыцца не толькі фаварытам групы, але і галоўным прэтэндэнтам на перамогу ў турніры.

Дарэчы, паводле ацэнкі часопіса Forbes, "Чэлсі" каштуе ні многа ні мала 1845 мільярда долараў. Сваіх сапернікаў "Чэлсі" прымае на легендарным арэне "Стэмфард Брыдж", якая была пабудавана яшчэ ў 1877 годзе. На сённяшні дзень стадыён, на якім БАТЭ згуляе 25 кастрычніка, ўваходзіць у дзясятку самых вялікіх на туманным Альбіёне.

Калі статус фаварыта ў "Чэлсі" ніхто не аспрэчвае, то дзве іншыя каманды з групы L – грэчаскі ПАОК і венгерскі "Відзі" – прамыя канкурэнты беларусаў у барацьбе за выхад з групы. Дарэчы, менавіта такую задачу перад сваімі футбалістамі ставіць галоўны трэнер Аляксей Бага. Вось што ён сказаў па выніках лёсавання ў каментарыі для клубнага сайта:

*– Нават пасля таго, як групы былі сфарміраваны напалову і падыходзіла чарга трэцяга кошыка, асаблівых пераваг не было. Адзінае – хацелася паспрабаваць нешта новае, не перасякацца з тымі, з кім змагаліся раней. У гэтым сэнсе складам свайго квартэта задаволены – шыльда даволі цікавая.*

*Рады, што БАТЭ ў чарговы раз прывозіць у Беларусь гранда кантынентальнага футбола. У мінулым годзе быў "Арсенал", цяпер "Чэлсі".*

*Зразумелая справа: лонданскі клуб – безумоўны фаварыт групы. Трэнер з імем, зорны склад і ўсе вынікаючыя адсюль моманты. Пры згадванні ПАОК на розум адразу прыходзяць заўзятары, знакаміты стадыён "Тумба". Венгерскі "Відзі" таксама вельмі няпросты, пераадолеў у сёлетнім розыгрышы Лігі чэмпіёнаў такія бар'еры, як балгарскі "Лудагорац" і шведскі "Мальмё".*

*Ад сваіх напярэдніх слоў не адмаўляюся: будзем змагацца за месца ў накаўт-раўндзе. Толькі жыццё пакажа, наколькі гэта ўдасца, але ў любым выпадку хочацца ставіць сур'ёзную задачу, не быць звычайнымі гледачамі на чужым свяце.*

**Поўны каляндар матчаў БАТЭ ў Лізе Еўропы**

**20 верасня**
Відзі – БАТЭ
**4 кастрычніка**
БАТЭ – ПАОК
**25 кастрычніка**
Чэлсі – БАТЭ
**8 лістапада**
БАТЭ – Чэлсі
**29 лістапада**
БАТЭ – Відзі
**13 снежня**
ПАОК – БАТЭ

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

Аднакласнікі **Іосіфа Паўлавіча СЯРЭДЗІЧА** па Лышчанскай сярэдняй школе выказваюць яму шчырае спачуванне ў сувязі з заўчаснай смерцю **сына Руслана**.

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ

**Па гарызанталі:** 1.Два. 4.Праца. 6.Спажа. 7.Госці. 9.Спор. 11.Копанка. 12.Ост. 13.Прачыстая. 14.Пыл. 17.Аргон. 18.Песня. 19.Колас. 20.Зямля. 22.Лес. 23.Пацалунак. 27.Пан. 30.Шклянка. 31.Анёлы. 32.Хвала. 33.Такса. 34.Матка. 35.Ралля.

**Па вертыкалі:** 1.Дом. 2.Аснова. 3.Сахаты. 4.Паркет. 5.Цнота. 8.Італія. 9.Слова. 10.Ра. 15.Бохан. 16.Месяц. 19.Каляда. 21.Яснага. 24.Цыкута. 25.Лаянка. 26.Нектар. 28.Сілка. 29.Адвал.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18070

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 03.09.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 705 экз. Заказ № 3341.